## ДОБРАЯ І НЯЛЁГКАЯ ДАРОГА СВЯТАРА

Матэрыял чытайце на 17-й с.

















Яшчэ адна радасная падзея ў жыцці Касцёла: у Лагойску 19 чэрвеня 1999г. кансэкравана новазбудаваная святыня, якая носіць тытул св. Казіміра.

















№ 8–9 (54–55)
1999



# Ave Maria

ЧАСОПІС МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ

*...Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе
(з аб'яўлення Маці Божай у Фаціме)*



Ружанец — гэта малітва простая і разам з тым тэалагічна багатая (…) Таму я хачу заклікаць вас, каб вы наноў адкрывалі і ўсё больш узбагачалі Ружанец як малітву асабістую і сямейную, скіраваную да Маці ўсіх вернікаў і Маці Касцёла.

*Ян Павел II*

*Дарота НАРЭЎСКАЯ*

# Ружанец штодзённасці

Катэхізіс каталіцкага Касцёла залічвае Ружанец да формаў народнай пабожнасці, якія трэба асвятляць вераю. Культ павінен весці чалавека на яе глыбіню. “Калі мы сапраўды любім Пана Бога, — казаў некалі кс. Ян Зея, — то ўсё — уся наша штодзённая праца, нашы чэргі, таўкатня ў аўтобусах ці трамваях, падмятанне, парадкаванне, праца — усё гэта паходзіць ад Бога і павінна ўспрымацца як Божая служба. Тады мы будзем мець тут, у сабе, жывы Ружанец”.

Маці Божая, аб’яўляючыся ў Люрдзе ці Фаціме, заахвочвала да ружанцовай малітвы. Яна хоча, каб мы маліліся... сваёй штодзённасцю. Дасканалы Ружанец — гэта адданне свайго жыцця ў рукі Бога і згода на ўсё, што Ён для нас вызначыў. А такая згода — гэта заўсёды прыняцце крыжа. Заўсёды! Нават тады, калі Божая воля і наша на першы погляд не супадаюць. У кожным, нават самым радасным моманце жыцця, ёсць запаведзь крыжа, бо ласка штодзённасці, выконванне адных і тых жа абавязкаў штодня становяцца цяжкімі для грэшнай натуры чалавека. Штодзённасць вымагае ахвяры. А што ж тады казаць пра Божую волю, якая ад самага пачатку патрабуе ад чалавека самаахвярнасці?! Тэрэса ад Дзіцяці Езус імкнулася стаць для Бога такой ахвярай, якую Ён сам сабе выбера. І Пан Бог сапраўды адказаў на яе малітву лаской цярпення. Ён увёў яе ў ноч пустэчы, адабраў веру, што напаўняла яе шчасцем, і даў тое, чаго яна не чакала. “Калі спяваю пра шчасце Неба, еднасці з Богам, то раблю гэта без аніякай унутранай радасці, проста апяваю тое, у што ХАЧУ верыць”, — пісала яна ў той час. Ласка духоўнай радасці была ў яе адабрана, застаўся толькі горкі хлеб штодзённасці, які давёў яе да містыкі. Бо толькі сапраўдны містык можа так думаць: “Якая ж гэта ласка, калі раніцаю мы не маем ні кроплі адвагі, ні сілы для практыкавання цнотаў... О, менавіта тады настае хвіліна, каб прыкласці сякеру да кораня дрэва. Замест таго, каб траціць час на збіранне крошак, поўнаю рукою чэрпаем са скарбонкі дыяментаў. О, які ж гэта плён напрыканцы дня!”

Ружанец вядзе нас да “скарбонкі дыяментаў”. Раней ці пазней чалавек бачыць, на якую дарогу кліча яго Пан Бог. Ружанец, як тая кропля, што прабівае камень, змяняе наш чалавечы спосаб мыслення, аспрэчвае рацыяналізм, які рэкамендуе ўнікаць складаных сітуацый. Але ж толькі цяжкасці ўдасканальваюць чалавека. Ружанец, такі заглыблены ў зямныя справы, дазваляе адначасна і адарвацца ад зямлі. “Зямля — гэта нашыя ўяўленні, — кажа ксёндз Зея, — наша воля, нашы перасуды, разумнічанні... Няхай нас адрываюць ад зямлі, нягледзячы на боль, бо ў гэтым і ёсць наша частка ахвяравання разам з Езусам Хрыстом дзеля таго, каб прыцягнуць нашых бліжніх да Бога”.

Тэрэса пасля шматлікіх духоўных змаганняў адкрыла таямніцу Марыі. Яна ўбачыла на Вялікай Дарозе веры Маці Божай сваю Малую Дарогу. Яна адкрыла сваё бяссілле. “Не выпадае мне стаць вялікай, значыць, павінна цярпець сябе такой, якая ёсць, з усімі маімі недасканаласцямі”. Яна адкрыла для сябе Божую міласэрнасць. “Пан Бог хоча мяне зрабіць святою”, — скажа яна. Гэтага ХОЧА Бог! Для гэтай мэты Ён выкарыстоўвае крошкі будзённага дня. А калі мы супрацоўнічаем з Яго лаской, гэта вядзе нас да “скарбонкі дыяментаў”.

Колькі ж гэткага адрывання ад зямлі было ў жыцці Марыі?! Яна хацела прысвяціць сваю дзявочую цнатлівасць Богу, а Ён учыніў Яе маці і жонкаю. Яна выбрала жыццё, якое

дазваляла аддацца сузіральнасці, але ўжо адразу пасля звеставання накіравалася да Альжбеты, каб уключыцца ў хатнія абавязкі. Магчыма, яна хацела захаваць толькі для сябе асабістае рашэнне сказаць Богу “так”, а Ён пажадаў Яе славы сярод усіх народаў. Тая, што жыла ў сваім унутраным свеце, шукаючы схованкі, ужо праз некалькі хвілін пасля нараджэння Езуса прымала гасцей, якія прыбылі зблізку і здалёку. Марыя была чалавекам. Пан Бог ад нічога Яе не ашчаджаў. Ён пакінуў у Яе жыцці столькі цемры, што крыж можна ўбачыць і ў радасных таямніцах.

Адрыў ад зямлі закранаў Тую, якая была без граху. Колькі ж прычын для адрыву маем мы, грэшнікі. Пан Бог выкарыстоўваў у жыцці Марыі яе дасканалыя жаданні, а ў нашым жыцці пераважаюць недасканалыя, іншы раз цалкам грэшныя жаданні. І іх выкарыстоўвае Бог. Грахоўнасць, якая на наш погляд, з’яўляецца чымсьці бязвартасным, у Божых руках становіцца прыладаю нашага асвячэння. Пайсці Малой Дарогай — гэта згадзіцца, каб Пан Бог выкарыстоўваў гэты “талент”. Што найцяжэй прыняць у хрысціянстве? Крыж! Кожны хоча мець плады Евангелля: любоў, сяброўства, спакой... Але мы зусім не жадаем ведаць, якім коштам гэтыя плады набываюцца, — цярпення.

“Малое, цеснае, звычайнае”, — так чалавек ацэньвае тое, што Бог прымае ў “скарбонцы дыяментаў”. Хто не пагарджае гэтымі скарбамі? Марыя. Яна ў сваім жыцці цалкам прымала ўсё малое, звычайнае...

Ружанец, як і Малая Дарога, з’яўляецца тою прыладаю, якая вядзе нас у глыбіню веры. Ён дазваляе ўбачыць у Вялікай Дарозе веры Марыі Малую Дарогу пазнання ўласнага бяссілля. Вядзе да адкрыцця Божай міласэрнасці.

*Часопіс “Różaniec”, № 10, 1999.*

*Пераклад І. С.*

# СВЯТАРСКІЯ ПАСВЯЧЭННІ Ў МІНСКУ



Надзвычай святочная атмасфера панавала 10 ліпеня ў мінскай Архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны. Ясныя цёплыя промні сонца дадавалі яшчэ большую урачыстасць агульнаму настрою. З самай раніцы ў святыні сабраліся вернікі Мінска і госці з Глыбокага, Браслава, Нарачы на ўрачыстую Літургію святарскіх пасвячэнняў дыяканаў Дзмітрыя Барылы, Аляксандра Багдановіча і Юзафа Мельдзюка. Усе яны паходзяць з Беларусі.

**Дзмітрый Барыла** нарадзіўся ў Глыбокім. Тут жа, у роднай парафіі, быў ахрышчаны ксяндзом Юзафам Францкевічам. З самага маленства выхоўваўся ў духу веры і любові да Бога, якую перадалі яму бацькі. Школьнікам трэцяга класа Дзмітрый прыступіў да Першай Святой Споведзі і Першай Святой Камуніі. У час атэістычнай адлігі ён браў актыўны ўдзел у жыцці ўдзельскага касцёла.

Дзякуючы кс. Юзафу Бульку, Дзмітрый выбраў шлях святарства. У 1991 годзе паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродна. Пасвячэнне ў дыяканы атрымаў у 1997 годзе, а дыяканскую практыку праходзіў у Бабруйску. У кастрычніку 1998 года распачаў вучобу ў Люблінскім Каталіцкім Універсітэце на факультэце Кананічнага Права.

**Аляксандр Багдановіч** нарадзіўся ў 1968 годзе ў Браславе ў каталіцкай сям’і. Пасля заканчэння школы вучыўся ў адной з вучэльняў Даўгаўпілса, дзе атрымаў прафесію электрамеханіка

*(Заканчэнне глядзі на стар. 24-й.)*







*Кс. Эдвард СТАНЕК*

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

## *ШОСТАЯ ЗАПАВЕДЗЬ*

### У абарону вернасці

Па волі Божай людская істота складаецца з дзвюх частак, якія ўзаемна дапаўняюць адна адну і ўтвараюць адно цэлае. Назва гэтых частак — жанчына і мужчына. У планах Стварцы чалавек — гэта саюз мужчыны і жанчыны. Без асаблівай ласкі Божай паўнавартасным чалавекам не здолее быць ані мужчына без жанчыны, ані жанчына без мужчыны. Бо так Бог стварыў чалавецтва, што гэтыя два розныя светы ўзаемадапаўняюцца і ўтвараюць дасканалае адзінства. Асноваю ж гэтага адзінства з’яўляецца сужэнскі саюз. “Будуць двое ў адным целе”. Прычым, гаворка ідзе не толькі пра паяднанне целаў, але і пра паяднанне духу. Пра тое, каб мужчына быў узбагачаны светам жанчыны і жанчына — светам мужчыны.

Таму, калі будзе зроблены выбар і наступіць спатканне, мужчына і жанчына стануць перад сур’ёзным заданнем: будаваць адзінства між сабою. Гэта цяжкае заданне, не абыдзецца тут без памылак і хібаў, тым больш, што звычайна ні адзін ні другі не маюць ніякага вопыту. Гэта іх першае супольнае заданне. Гэта ў вернасці гэтаму заданню выявіцца іх чалавечая веліч.

Цяжкасці могуць быць велізарныя. Мы ніколі не ў стане дакладна распазнаць кандыдата на сужонка. Заўсёды трэба прымаць яго такім, які ён ёсць, і трэба яго любіць такога, які ёсць. Касцёл, жадаючы дапамагчы ў захаванні гэтай вернасці, вымагае ад сужонкаў напачатку іх супольнай дарогі, каб прамовілі вялікія словы: “прысягаю табе любоў, вернасць і сужэнскую пашану, а таксама, што не пакіну цябе аж да смерці”. Гэта прысяга мае абавязковы характар. Сужонак не гаворыць: прысягаю табе вернасць, калі і ты мне будзеш верная. Не! Прысягаю перад Богам, што я буду табе верны, што тут можаш на мяне разлічваць. Прысягаю, што ў будове нашага адзінства я вытрываю аж да смерці.

На гэтым фоне мы можам зразумець усю важнасць шостай Божай запаведзі. Стварца кажа: “не чужалож”. Гэта значыць, не працягвай рукі па іншага мужчыну, па іншую жанчыну, бо тады знішчыш гэта адзінства, якое павінен будаваць. Замест таго, каб узводзіць, будзеш разбураць. Ніколі не заслужыць павагі ані ў Бога, ані ў людзей той, хто знішчае, хто не справіўся з узятым на сябе заданнем. Таму чужалоства — гэта няшчасце, якое перажывае сам чужаложнік. Гэта доказ таго, што такі чалавек не ўмее, не здольны, а перадусім — не хоча справіцца з заданнем, якога вымагае сужэнства.

Божы наказ “не чужалож” — гэта найперш перасцярога перад няшчасцем у тваім жыцці. Няшчасце, маштаб якога немагчыма прадбачыць. Жыццё ў нас адно і кароткае, яго можна альбо выйграць альбо прайграць — на эксперыменты няма ні месца, ні часу. “Не чужалож” — гэта таксама перасцярога перад тым, каб не зрабіць нешчаслівымі іншых. Наша любоў абмежаваная; калі мы пачнем яе дзяліць, то ніколі не будзем любіць па-сапраўднаму. Па-засужэнскі раман — раўназначны абкрадванню сужонка, прытым у чалавека крадзецца самае каштоўнае — любоў.

Чужалоства — заўсёды вельмі балючая і крывавая рана, якая наносіцца таму “адзінаму целу”, якое па волі Божай утвараюць сужонкі. Яно — крыніца цярпення, замкнутасці, самотнасці, няшчасця, якое перажывае падмануты сужонак і дзеці.

“Не чужалож” — гэта выключэнне магчымасці пакінуць чалавека, гэта заклік узяць на сябе адказнасць за другога. Можаш змяніць машыну, дом, працу, поле, сяброў — усё. Але нельга змяніць мужа, жонкі, дзяцей. Іх можна кінуць, але яны заўсёды будуць выносіць табе прысуд.

Таму шостая запаведзь абараняе вялікія каштоўнасці, якія сведчаць аб развіцці чалавецтва. У сужэнскай вернасці заключаны шанец развіцця чалавека. Бо вернасць — гэта сіла, здольная перамагчы ўсе цяжкасці і атрымаць поўную жыццёвую перамогу.

Нават калі іншы бок апусціцца на дно (напр. п’янства), Бог заклікае захоўваць вернасць, бо павінен быць хтосьці, хто падтрымае чалавека ў гэтай бядзе.

Можна разысціся, можна выхаваць дзяцей асобна, калі таго вымагае іхняе дабро (дрэнны ўплыў аднаго з бацькоў, небяспека для жыцця і здароўя), але нельга здрадзіць. Трэба захаваць вернасць, у якой прысягалі на шлюбе, няхай сужонак ведае, што ёсць хтосьці, хто ў яго верыць, хто за яго моліцца. Бо пакуль адзін верны, датуль другі мае шанец уратавацца.

Кожная захаваная вернасць — гэта вялікі асабісты поспех вернага сужонка і вялікае грамадскае дабро. Гэта крок наперад у развіцці асобнага чалавека і ўсяго чалавецтва. Тым часам кожнае чужалоства, кожная сужэнская здрада — бяда чалавека, які здраджвае, і аслабленне грамадства. Бо яна замест таго, каб творча будаваць, знішчае і раніць.

**Пажадлівасць —гэта Божы дар**

Бог усклаў на чалавека адказнасць за адзін з вялікіх дароў — дар перадаваць жыццё наступным пакаленням. Наколькі ў жывёльным свеце Ён падпарадкаваў гэты дар цвёрдым законам прыроды, настолькі даверыў чалавеку самому ім распараджацца. Адзінае абмежаванне гэтага дару з боку Стварцы заключаецца ў закліку выкарыстоўваць яго ў сужэнстве. Гэта бар’ер, які паставіў Бог. Сужэнства — вось месца выкарыстання гэтага дару.

Пажадлівасць як Божы дар — добрая. Гэта магутная сіла, якая жыве ў нас, яна скіравана на прыемнае спатканне з другім чалавекам дзеля перадачы жыцця. Паколькі яна добрая і сыходзіць ад Бога, то не трэба яе ані палохаць, ані знішчаць — трэба ёю апанаваць і асвяціць яе. Гэты дар цесна звязаны з нашым целам. Адсюль вынікае, што мы павінны заўсёды памятаць, што наша цела створана і цудоўным чынам запраграмавана Богам.

Хрысціянін заклікані пазнаваць таямніцы людскога цела як цудоўнага Божага тварэння. Падкрэсліваю — таямніцы. Тут няма месца фальшываму сораму, тут гаворка ідзе пра пазнанне багацця таямніцы, схаванай Богам у нашым целе. Няма таксама месца пазбаўленню чалавека гэтай таямніцы і звядзенню ўсяго да працэсаў чыста фізіялагічных. Бог аб’явіў сваю мудрасць, ствараючы цела жанчыны, якое цалкам скіравана даваць жыццё. Бог аб’явіў сваю любоў, ствараючы мужчыну і жанчыну так, каб яны складалі адно цела. Адкрыццё таямніцы чалавечага цела — гэта адно з заданняў хрысціянства. У афіцыйнай навуцы Касцёла цела заўсёды было атулена пашанаю. Ян Павел II прысвяціў цыкл катэхезаў людскому целу, заклікаючы ўсіх схіліцца над яго таямніцай. Гэта варта сабе ўсвядоміць, бо сярод хрысціянаў часта сустракаюцца легкадумныя адносіны да людскога цела альбо таксама фальшывы сорам у размовах аб тым, што Бог стварыў і чым абдараваў чалавека.

Плоцкае жыццё непарыўна звязана з ахвяраваннем сябе другому чалавеку і прыняццем другога чалавека ў сваё сэрца. Бо нельга ўзбагаціць іншага гэтым дарам, не даючы сябе, і нельга прыняць гэтага дару ад другой асобы, не даючы сябе. Тут важную ролю іграе адказнасць за ахвяраванне сябе другому чалавеку і за давер, з якім іншая асоба ахвяруе сябе. У гэтым — стрыжань справы. Сутнасць запаведзі “не чужалож” заключаецца ў адказнасці за ўласную годнасць і годнасць іншага чалавека. Гэта адказнасць вымагае апанавання пажадлівасцю, бо калі чалавек над ёю не пануе, то не можа быць адказны ані за сябе, ані тым больш за іншага. Датычыць гэта таксама ўмення распазнаваць ступень адказнасці чалавека, у рукі якога мы збіраемся аддаць сябе. Бо калі аддаем сябе ў рукі безадказнага чалавека, то ён нас знішчыць. Такім чынам, валоданне сабою — умова, якая робіць магчымаю адпаведную ацэнку ступені адказнасці іншых. Я не павінен тут даказваць, што калі хтосьці не ў стане адказваць за сябе, то не здолее таксама ацаніць ступені адказнасці іншых. Такі чалавек проста ў гэтым нічога не разумее, не ведае, што такое адказнасць.

Адказнасць вымагае не толькі валодання сабою, але і вялікай мудрасці. Аднак паколькі да стасункаў паміж мужчынам і жанчынаю дамешваецца страсць, мудрасць часта знаходзіцца пад пагрозаю. Страсці характэрна тое, што яна заўсёды імкнецца выключыць розум. Ёй здаецца, што розум перашкаджае паўнаце шчасця. Выключаючы ж розум, яна робіць немагчымаю цалкам аб’ектыўную ацэнку адказнасці іншага чалавека. Да сённяшняга дня ва ўсіх вялікіх культурах сужэнскі саюз — гэта справа бацькоў, якія ведаюць ступень адказнасці свайго дзіцяці і здольныя аб’ектыўна ацаніць яго адказнасць як кандыдата на сужонка. Бацькі дабіраюць сужонкаў для сваіх дзяцей. Такі звычай існуе ў Кітаі, Японіі, Індыі і ў арабскіх краінах. Аказваецца, што такія шлюбы больш трывалыя, чым у нашым хрысціянскім свеце Еўропы і Амерыкі. Прычына гэтага простая. У нас часцей за ўсё несамастойны чалавек бярэ сабе за жонку такую ж несамастойную асобу. А таму цяжка ад шлюбу дваіх несамастойных людзей чакаць самастойнасці і трываласці. Часам нават дробная перашкода выяўляе недахоп гэтае самастойнасці і вядзе да разводу. Сужэнства — гэта справа не толькі індывідуальнага шчасця і не можа заключацца на аснове толькі страсці. Сужэнства — гэта справа грамадская, справа вялікай адказнасці. “Не чужалож” — гэта не толькі забарона класціся ў чужы ложак, але і заклік да адказнасці за сябе і за другога чалавека, гэта заклік да клопату пра годнасць сваю і іншых людзей.

*Пераклад Крыстыны ЛЯЛЬКО.*

*Працяг будзе.*
*Пачатак у №№ 1-6, 8 -12 за 1998 г. і ў №№ 1-2, 5-6 за 1999 г.*





## СЫН ЗЯМЛІ НАРАЧАНСКАЙ

У жыцці касцёла св. Андрэя, што ў Нарачы, 18 ліпеня адбылася бадай самая прыгожая і знамянальная падзея: упершыню за апошнія 50 гадоў у касцёле адбылася прыміцыйная Імша. Ураджэнец вёскі Вярэнькі, сын Яна і Рэгіны Мельдзюкоў стаў прычынаю гэтага доўгачаканага свята.

Ксёндз Юзаф... Яшчэ не паспелі прывыкнуць так звяртацца да яго сябры і блізкія знаёмыя, бо толькі тыдзень таму адбылося святарскае пасвячэнне. Было гэта ў Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны.



Паўстагоддзя прыгожая Нарачаншчына чакала свайго мясцовага святара. Дзякуючы Божай ласцы, ім стаў хлопец з Вярэнек. Адказны на яго плечы кладзецца цяпер абавязак — маліцца за свой прыгожы край, шчыра служыць Богу і Бацькаўшчыне.

Дык пажадаем жа яму Божага благаславення і апекі Маці Божай на гэтым нялёгкім, але такім пачэсным шляху.

*Анатоль КЛЯШЧУК.*
*Фота аўтара.*



# Чалавек прыгожай душы

Мінулым летам парафіяне Барысава горача віншавалі ксяндза марыяніна Юзафа Пятушку з 50-годдзем ягонай службы ў законе марыянаў, а таксама і дзесяцігоддзем працы ў нашым горадзе.

Апостал Павел кажа: "Памятайце настаўнікаў вашых, якія казалі вам слова Божае, і... пераймайце веру іх" (Гбр 13, 7). Шмат жыхароў Барысава і яго ваколіцаў знайшлі сапраўдны шлях да Бога дзякуючы асабістаму прыкладу веры высокаадукаванага тэолага і гісторыка кс. Юзафа Пятушкі. Менавіта такога плёнага зерня патрабавала камяністая глеба Касцёла на Беларусі, разбуранага доўгімі гадамі атэізму.

Вопыт складанага і цікавага жыцця святара можа служыць прыкладам дзеяння Святога Духа і Божага Провіду. Юзаф Пятушка нарадзіўся 15 мая 1932 года на хутары ў Росіцкай парафіі. У першай споведзі быў у благаслаўёнага Антонія Ляшчэвіча. У часе вайны яго сям'я пераехала ў Латвію, адкуль пазней трапіла ў Кёнігсберг, а потым у Польшчу, дзе хлопчык скончыў школу. Заўсёды ксёндз Юзаф вельмі цёпла ўспамінае свайго класнага кіраўніка, настаўніцу, якая зрабіла значны ўплыў на далейшы выбар ягонага жыццёвага шляху, хоць ніколі і не размаўляла з ім аб святарстве.

У ордэн марыянаў а. Юзаф уступіў у 1948 годзе, а першыя шлюбы склаў 15 жніўня 1949 года. Пасля вучыўся на тэалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта і 16 сакавіка 1957 года атрымаў сакрамэнт Святарства. Дэвізам свайго святарскага жыцця малады марыянін абраў словы: "У тым пазналі мы любоў, што Ён паклаў за нас душу сваю, і мы павінны пакладаць душы свае за братоў" (1 Ян 3, 16).

Далей была праца з моладдзю ў Грудзёнцы, пасля якой малады святар зноў вырашыў удасканаліць свае веды і паступіў на гістарычны факультэт Люблінскага каталіцкага універсітэта, дзе адначасова працаваў капеланам сярод студэнтаў. Пазней быў прэфектам семінарыі. Яго былы выхаванец, а цяпер рэктар універсітэта марыянін а. Шостак так гаворыць аб ім: "У мяне быў вельмі мудры і добры прэфект, дзякую яму за тое, што прывіў нам любоў да кніг". Пасля зноў быў Грудзёндз, а потым 10 гадоў вельмі цяжкай і адказнай працы ў псіха-неўралагічнай клініцы Варшавы.

Пачынаючы з 1971 года, кожны свой адпачынак кс. Юзаф выкарыстоўваў для місіянерскіх паездак у былы Савецкі Саюз, часта бываў на Беларусі, наведваў Маскву, Ленінград, Рыгу, Вільнюс, Іркуцк, іншыя мясціны. І вось нарэшце ў 1990 годзе здзейснілася мара святара працаваць на Беларусі — ён быў прызначаны пробашчам барысаўскага касцёла.

На той час будынак касцёла патрабаваў капітальнага рамонту, бо раней выкарыстоўваўся ў якасці кінатэатра і спартыўнай залы. Дзякуючы намаганням пробашча і вернікаў, касцёл набыў належны выгляд, і ў ім адрадзілася паўнакроўнае жыццё. Барысаўскія парафіяне часцей за ўсё называюць кс. Юзафа ласкава — "ойчанька", бо ён дзіўным чынам ведае клопат кожнага верніка і хвалюецца за кожную сям'ю. Ягоныя вочы заўсёды свецяцца любоўю і ўсе, хто знаходзіцца побач з ім, адчуваюць цеплыню ягонага сэрца.

Менавіта таму ёсць шмат вернікаў, якія па яго прыкладу выбралі шлях законнага альбо святарскага жыцця. Толькі з Барысава выйшла на Божае жніво 15 працаўнікоў: дзесяць законных сясцёр, дыякан і тры клерыкі марыяніны, а таксама ксёндз А.Тарасевіч, які працуе ў мінскай катэдры.

Усе вернікі барысаўскага касцёла шчыра дзякуюць Пану Богу за тое, што Барысаўскай парафіі пашчасціла мець пробашчам чалавека, прыгажосць душы якога можна параўнаць з веліччу Божай любові.

*Алена ЯКУШЭЎСКАЯ.*







# "Вось я, Пане, бо Ты паклікаў мяне"

ДРУЙСКІ касцёл і кляштар марыянаў... Адна з найбольш яркіх старонак гісторыі Касцёла на Беларусі... Сюды, у невялічкае мястэчка "на скраі свету", прыехаў у 1923 годзе былы прафесар Менскай каталіцкай духоўнай семінарыі айцец Андрэй Цікота, каб выканаць даручэнне віленскага біскупа, генерала ордэна марыянаў Юрыя Матулевіча і заснаваць беларускі кляштар марыянаў. Даручэнне было выканана — у Друі паўстаў кляштар, з дзейнасцю якога непасрэдна звязаны лёсы айцоў Фабіяна Абрантовіча, Андрэя Цікоты, Язэпа Германовіча, Язэпа Дашуты, Казіміра Смулькі, Віталіса Хамёнка, Юрыя Кашыры, Антонія Ляшчэвіча і многіх іншых сыноў Беларусі. Тут быў арганізаваны навіцыят для маладых кандыдатаў, тут, у гімназіі падрастала маладая змена ордэна...



Друйскі касцёл і кляштар напоўніцу раздзялялі з Касцёлам на Беларусі і ўсе выпрабаванні XX стагоддзя. У 1938 годзе група беларускіх марыянаў была выслана з Друі па распараджэнні польскіх шавіністычных уладаў, якія не маглі змірыцца з беларускай арыентацыяй законнікаў, з тым, што яны жадалі служыць Богу на роднай мове. Праз пяць гадоў яшчэ два марыяніны сталі ахвярай жорсткага беззаконня, цяпер ужо з боку нямецкіх уладаў. У 1943 годзе айцы Юры Кашыра і Антоні Ляшчэвіч загінулі ў страшным полымі другой сусветнай вайны разам з жыхарамі беларускага мястэчка Росіца. Бласлаўёныя мучанікі з Росіцы добраахвотна прынялі смерць, не пажадаўшы ў гадзіну найвялікшага выпрабавання пакінуць тых, каму яны адкрывалі шлях да Бога.

Прайшло яшчэ колькі гадоў, адгрымела вайна, а цяжкія выпрабаванні для законнікаў не скончыліся. Завейнымі шляхамі сталінскага ГУЛАГу былі вымушаныя прайсці айцы Андрэй Цікота (які пэўны час быў генералам ордэна марыянаў), аўтар пяшчотна-журботнай песні "Матачка Божая", былы рэктар Менскай духоўнай семінарыі Фабіян Абрантовіч, Язэп Германовіч, які потым, праз гады, напіша горкія свеой аголенай праўдай успаміны пра побыт у ГУЛАГу "Кітай—Сібір—Масква", айцы Юзаф Францкевіч, Люцыян Паўлік, браты Антоні і Тамаш Падзявы і іншыя.

Настане час — апусцее касцёл і кляштар у Друі. І толькі скразняк будзе жаласна скуголіць там, дзе некалі квітнела духоўнае жыццё беларусаў. Пазней у былым кляштары размесціцца школа механізацыі. Будучыя маладыя механізатары пачнуць вучыцца ездзіць на трактары па кляштарным двары, ласавацца яблыкамі з ацалелых яшчэ яблыняў з кляштарнага саду ды крэмзаць на старажытных

мурах надпісы кшталту: "Тут быў Вася". А над велічным гмахам касцёла, здавалася б, назаўсёды навісне хмара беспрасветнага занядбання і суму. Здавалася б, назаўсёды...

Ды ў 1956 годзе ў сумную, апусцелую Друю вернецца з выгнання ксёндз марыянін Люцыян Паўлік. Дзверы касцёла перад ім не расчыняцца, і ён будзе вымушаны паехаць у Задарожжа, дзе і пачне ахвярна служыць Пану Богу да сённяшняга дня. Прыгожы касцёл у Задарожжы носіць імя Маці Божай Ласкавай. Да Яе, ласкавай і добрай, суцяшальніцы ва ўсялякіх непамыслотах і бедах, маліўся ён, выпрошваючы вяртанне на Беларусь сваіх братоў законнікаў. Ён, паляк па нацыянальнасці, меў магчымасць у свой час выехаць на радзіму. Тады ад нас паехалі многія святары з Польшчы. Ён не паехаў. Не дазволіла душа пакінуць Край, дзе так патрэбна была святарская паслуга. Усе гэтыя гады ён служыў тут — шчыра, ахвярна. І шмат маліўся за гэты Край, глыбока верачы ў моц малітвы.

А ў Вішневе, што на Валожыншчыне, у гэтай самай інтэнцыі маліўся яшчэ адзін ксёндз марыянін — Уладыслаў Чарняўскі. Маліўся і моцна верыў, што засілле атэізму над нашай Бацькаўшчынай мінецца. Верыў у гэта і шмат працаваў над перакладам Святога Пісання на беларускую мову, працягваючы тым самым справу друйскага кляштара марыянаў.

Дык усё ж не знікла справа марыянаў! Усё ж яна трывала — няхай сабе ў ціхім Задарожжы ды ў прыгожым Вішневе!.. Ды яшчэ ў польскім Скурцы, у кляштары марыянаў, адарваныя ад сваёй Бацькаўшчыны, маліліся за тое ж самае беларускія марыяне Казімір Смулька, Язэп Дашута, Віталіс Хамёнак... Успамінаюць, што адзін з іх — Казімір Смулька — часта слухаў перадачы беларускай радыёстанцыі "Свабода" з надзеяй, што некалі пачуе радасную вестку пра незалежнасць Беларусі. Кажуць, калі ён памёр, на стале побач з ложкам так і застаўся ўключаны радыёпрыёмнік, з якога неслася чужая, незразумелая мова.

Ды не, не знікла справа беларускіх марыянаў. У той час, калі на нашай зямлі вялася бессэнсоўная вайна з самім Богам, у далёкім Лондане выходзіў беларускі рэлігійны часопіс "Божым шляхам", які рэдагаваў а. Язэп Германовіч і на старонках якога часта друкаваўся яшчэ адзін выхаванец друйскага кляштара — біскуп і былы генерал ордэна марыянаў Часлаў Сіповіч.

Беларускія марыяне служылі тады Богу ў Аўстраліі, ЗША, Англіі, Бразіліі, Польшчы. Дарога ж на родную зямлю была забаронена. Але дзе б яны ні знаходзіліся, іхняя малітва не спынялася. І ўрэшце яна была пачутая небам. Наша зямля таксама дачакалася пераменаў, якія неслі людзям духоўную свабоду. Тады і вярнуліся на Бацькаўшчыну марыяне: кс. Антоні Лось прыехаў у Ідолту і Друю, яго пляменнік кс. Антоні — у Росіцу, кс. Юзаф Пятушка — у Барысаў, кс. Францішак Апячонак — у свае родныя Плюсы, кс. Ян Вайткевіч — у Германавічы і Лужкі.

Прыехалі працаваць на Беларусь і марыяне з Польшчы: кс. Яраслаў Гыбза, кс. Марк Жук, кс. Роберт Кшывіцкі, кс. Генрык Кулеша, брат Станіслаў Буры. Не думаю, што ім лёгка працаваць у нас. Напэўна ж, на радзіме было б і прасцей, і лягчэй. Але рэч тут, відаць, зусім не ў тым, дзе цяжэй, а дзе лягчэй. Напэўна, вызначальным тут з'яўляецца патрэба. Дзякуй ім усім за тое, што яны зразумелі гэтую патрэбу. І калі чуеш, як натуральна гучыць беларуская мова з вуснаў, да прыкладу, кс. Яраслава, кс. Роберта альбо кс. Марка, тады і падумаеш пра тыя глыбінныя повязі паміж нашымі народамі.

Так адраджалася дзейнасць закона марыянаў на Беларусі. Паволі, часам змагаючы сур'ёзныя перашкоды (чаго-чаго, а гэтага ў нас хапае). Але хіба лёгка было кс. Люцыяну Паўліку ды кс. Уладыславу Чарняўскаму ўсе гэтыя гады абслугоўваць па некалькі парафій, адлегласць паміж якімі часцяком дасягала сотні кіламетраў? Вядома, не. Таму не цяжкасці турбавалі тых, што адважна пакінулі лепшыя ўмовы жыцця, спакойнае служэнне Пану Богу за мяжой і прыехалі на Беларусь. Па-сапраўднаму непакоіла тое, што не было пакуль што на Беларусі ў марыянаў маладой змены. Ды прайшло яшчэ трохі часу, і Пан Бог паклікаў на службу ў гэтым ордэне кс. Часлава Курэчку. А неўзабаве парог пастулату ордэна марыянаў пераступілі некалькі маладых беларусаў...

І вось 29 жніўня 1999 года. Друя. Перад алтаром у касцёле Найсвяцейшай Тройцы крыжам ляжыць Міхал Цвячкоўскі, просячы ў Пана Бога навечна прыняць ягоны шлюб чысціні, убоства і паслушэнства. Першыя вечныя шлюбы марыяніна на нашай зямлі пасля доўгіх гадоў панавання ваяўнічага атэізму. Вядома ж, не выпадкова, што гэтая прыгожая ўрачыстасць адбылася менавіта ў Друі, якой зноў па волі Божай апякуюцца марыяне. Штосьці сімвалічнае бачыцца і ў тым, што бацька Міхала Цвячкоўскага калісьці вымушаны быў вучыцца ў школе механізацыі, якая месцілася ў кляштары марыянаў. Цяпер жа ягоны сын, стаўшы марыянінам, даваў прысягу Пану Богу ў адноўленым, вернутым да жыцця друйскім касцёле. Богу — Богава, кесару — кесарава...

Напэўна, ніхто і ніколі не разгадае таямніцу паклікання чалавека на Божую службу. Чаму Бог кліча менавіта гэтага чалавека? Чаму не іншага? І як сумець пачуць Божы покліч? Як не пабаяцца адказаць на яго сваёй згодай? Вялікая таямніца. І, напэўна, кожны, хто моліцца ў касцёле "Літанію да Усіх Святых" у той час, калі перад алтаром ляжыць крыжам малады святар, чуе ў сваёй душы дотык да тае вялікае таямніцы.

У казанні на Святой Імшы ў друйскім касцёле Святой Тройцы айцец правінцыял Анджэй Пакула MIC сказаў: "Бог ведае таго чалавека, якога паклікаў на сваю службу, як самога сябе. Ведае ягоныя слабасці, добрыя і дрэнныя рысы, ведае яго ўсяго... Так было некалі з прарокам Ераміяй, так было ва ўсе часы з усімі, каго клікаў Бог. І цяпер Ён дае чалавеку тое ж заданне, якое даваў сваім слугам шмат гадоў таму: пераказваць народу тую праўду, што Бог ёсць сярод народа, што Ён, міласэрны і добры, любіць людзей. І таму пакліканы чалавек сам з'яўляецца знакам Божай прыязнасці да людзей, знакам таго, што святы, сапраўдны Бог жыве ў сэрцы гэтага чалавека".

Колькі ж патрэбна даверу з боку вернікаў да тых людзей, якіх Бог паклікаў на сваю службу! Колькі патрэбна малітвы за тое, каб яны, адважна адказаўшы Пану Богу сваёй згодай, не змарнавалі ў будучым гэтага вялікага дару. Малітвы, якая падтрымлівае і аберагае пакліканага. Напэўна, гэта добра разумелі і тыя вернікі, якія 8 верасня былі ў задарожскім касцёле Маці Божай Ласкавай, калі брат Вячаслаў Пялінак MIC аднаўляў свае шлюбы законніка, альбо тыя, што прысутнічалі на гэткай жа падзеі ў Оршы, дзе брат Валеры Гаўрута MIC і брат Зміцер Бажкоў MIC таксама аднаўлялі свае шлюбы.

Няшмат было беларусаў на яшчэ адной вельмі важнай урачыстасці — складанні першых законных шлюбаў яшчэ чатырма беларускімі хлопцамі ў польскім горадзе Гура Кальварыя. Браты марыяне Аляксандр Шамрыцкі, Віктар Жаўняровіч, Андрэй Сідаровіч і Віталь Драздовіч пасля году навіцыяту ў гэтым жа горадзе склалі свае першыя шлюбы законніка на год. "Вось я, Пане, бо Ты паклікаў мяне", — усхвалявана прамовіў кожны з іх у гэты дзень, а потым у аглушальнай цішыні, якая напоўніла раптам святыню, паабяцаў Богу чысціню, убоства і паслушэнства — на год. З таго дня пачалося для гэтых маладых хлопцаў нялёгкае, але духоўна багатае жыццё законніка, якое будзе вымагаць ад кожнага з іх шмат вытрымкі, пакоры, веры. Але і ад усіх нас яно таксама вымагае шмат — найперш малітвы за іхнюю вытрываласць. Бо мы ж разумеем, што ўсё гэта — дзеля дабра Касцёла на Беларусі, а значыць, і дзеля духоўнага дабра кожнага з нас. Бо такая ўжо адметнасць беларускіх марыянаў — па-асабліваму ахвярна служыць Пану Богу на збалелай, сцёкшай крывёю Бацькаўшчыне. Пра гэта думалася ў часе яшчэ адной урачыстасці, якая не так даўно адбылася на Беларусі.

Росіца... Сюды 30 жніўня прыехалі марыяне з розных куткоў Беларусі, каб разам з айцом правінцыялам Анджэем Пакулам MIC у сумеснай малітве падзякаваць Пану Богу за вялікую ласку да іхняга ордэна і ўсёй Беларусі — вынясенне да хвалы нябеснага алтара марыянскіх мучанікаў з Росіцы Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Сыны Беларусі, яны ў страшным 1943 годзе прынеслі ў ахвяру Пану Богу свае ўласныя жыцці — за нашу зямлю, за людзей, якія жылі разам з імі, за тых, што будуць жыць пасля, а значыць, і за ўсіх нас.

Ахвяра Богу ніколі не бывае надарэмнаю. Ні тады, калі чалавек ступае ў полымя агню, каб згарэць у ім, ні тады, калі ён кладзецца крыжам перад Божым алтаром, ахвяруючы Пану Богу сваю маладосць і ўсю сваю будучыню, ні тады, калі ён прамаўляе ад свайго шчырага, бескарыслівага сэрца: "Вось я, Пане, бо Ты паклікаў мяне".

Вялікая, хоць знешне і нябачная сувязь існуе паміж імі: тымі, хто ў далёкім 1923-м закладваў у Друі марыянскі кляштар, тымі, хто праводзіў каталіцкую місію ў Росіцы і аддаў там свае жыцці, тымі, хто цяпер ідзе па шляху марыянаў, а таксама і тымі, хто сёлета прыйшоў у пастулат і навіцыят ордэна, каб падрыхтаваць свае сэрцы да тае хвіліны, у якую яны змаглі б даверліва вымавіць: "Вось я, Пане, бо Ты паклікаў мяне..."



Пане Божа! Дзякуем Табе за дар паклікання, які Ты ў дабраце сваёй пасылаеш на Беларусь, бо дасканала ведаеш патрэбы нашага Краю. Апякуйся тымі, каго Ты паклікаў. І няхай яны заўсёды будуць годнымі знакамі Тваёй прысутнасці сярод нас.

*Ірына ЖАРНАСЕК.*
*Фота аўтара.*

# АД РЭКАЛЕКЦЫЙ ДА РЭКАЛЕКЦЫЙ

*Незвычайная гэта была экскурсія па старажытным Полацку: у ёй адначасна ўдзельнічалі бацькі і дзеці. Людзі з розных куткоў Беларусі ды і не толькі з яе, розных узростаў, заняткаў, перакананняў. Аб'ядноала ж іх усіх Шэметава — невялічкая вёска на Мядзельшчыне, дзе напрыканцы ліпеня былі рэкалекцыі для сем'яў. Ішоў другі дзень рэкалекцый, калі і адбылася гэтая паездка з Шэметава ў Полацк.*

Прызнаюся, калі ксёндз дыякан Вячаслаў Барок прапанаваў мне правесці экскурсію для гэтай групы, я трохі разгубілася. Як гэта мае выглядаць? Ці будзе цікава дзецям тое ж, што і іх бацькам? І наадварот? Бо не надта звыклая для нас карціна — бацькі разам са сваімі дзецьмі ў музеях.

Але мая трывога была дарэмнаю. Усе разам мы цудоўна правялі той дзень: ездзілі па старажытным Полацку, блукалі ягонымі вулкамі, стромкім берагам Дзвіны, наведалі Сафійскі сабор, Спаскую царкву, дзе па чарзе кленчылі каля мошчаў святой Еўфрасінні, слухалі аповед нашай сучасніцы манахіні пра гісторыю Спаса-Праабражэнскага манастыра і яго перліны царквы Еўфрасінні Полацкай, пра геніяльнага дойліда Іаана і пра слынны крыж Лазара Богшы, пра тое, што і цяпер святая Еўфрасіння Полацкая з нябеснай вышыні дапамагае сваім духоўным дочкам у чорных строях манахіняў, якія сёння жывуць і моляцца ў Полацку.

На жаль, пра каталіцкую традыцыю ў Полацку мне ўсё больш даводзілася гаварыць у мінулым часе: тут — быў касцёл і кляштар францішканаў, тут — касцёл Маці Божай Ружанцовай, а вось там — касцёл святога Стэфана і знакамітая езуіцкая акадэмія. Усё гэта — было, было, было... Ды вось нарэшце і тое, што **ёсць** — касцёл святога Андрэя Баболі. Сучасны. Пабudаваны зусім нядаўна. У ім і адбылася Святая Імша для шэметаўскіх пілігрымаў. Праўда, самыя малодшыя з іх, змогшыся ад набліжкай дарогі і перапоўненыя ўражаннямі, мірна спалі ў гэты час на аўтобусных сядзеннях. Іхнія ж бацькі разважалі над другой таямніцай Радаснай часткі святога Ружанца — "Наведзінамі святой Альжбеты". Кожны дзень рэкалекцый прысвечаны аднолй таямніцы Ружанца. Усё — паводле кс. Бляхніцкага, заснавальніка руху "Святло — жыццё".

Столькі светлага ды жыццясцвярджальнага было ў той дзень, што расставацца зусім не хацелася, і я ахвотна прыняла запрашэнне ўдзельнікаў рэкалекцый з'ездзіць з імі ў Шэметава. Едзем! Аўтобус вырушвае на шашу "Полацк — Вільня", і пачынаецца размова. Што ж гэта такое — рэкалекцыі для сем'яў, большасць з якіх удзельнічае ў руху "Хатні касцёл"? Цікавае правядзенне вольнага часу? Адкрыццё раней невядомага? Сустрэча з тым, да чаго часам нават падсвядома імкнулася душа? І адно, і другое, і трэцяе. І яшчэ шмат чаго, з чым не сустрэнешся ў іншым месцы, сярод іншых людзей, у іншым асяродку. Зрэшты, найлепш пра гэта скажуць самі ўдзельнікі рэкалекцый.

**Сям'я Образавых з Віцебска:** маці Таццяна, бацька Зміцер і дачушка Насця. У рэкалекцыях удзельнічаюць трэці раз. Усе трое пасля кожных рэкалекцый пачынаюць чакаць новых. І іхнія надзеі спраўджваюцца.



***Таццяна:*** Пасля першых мінулагодніх рэкалекцый у нас быццам крылы выраслі. Паехалі да пробашча, прапанавалі яму стварыць і ў нашай парафіі рух "Хатні касцёл". Цяпер у Віцебску мы не адзінокія. А што нам даюць рэкалекцыі? Глыбей, па-сапраўднаму адчуць на сабе Божую любоў. Згадзіцеся, што гэта нямала. І таму мы, трое, вырашылі: нашыя адпачынкі будзем праводзіць толькі на рэкалекцыях.

***Зміцер:*** Жывём ад рэкалекцый да рэкалекцый. Нідзе я не адчуваю такога моцнага ўздзеяння Святога Духа, як тут. Можа таму, што мы самі тут найбольш адкрываемся Богу. А яшчэ вельмі важна, што тут адчуваеш поўнае разуменне тваіх праблем, мы становімся нібы адной сям'ёй. Чужых праблем тут проста не бывае. Хочацца даць параду маладым сем'ям: "Калі жадаеце зберагчы сям'ю — ідзіце ў "Хатні касцёл". Гэты рух умацоўвае сям'ю. Толькі не трэба баяцца, калі напачатку будзе штосьці незразумела, нязвыкла, пановаму.

**Сям'я Тэйманяў са Смаленска:** маці Расціслава, бацька Сяргей, дачка Оля і сын Ваня. Расціслава — каталічка, Сяргей — праваслаўны. У руху "Хатні касцёл" не ўдзельнічаюць, нават нічога не чулі пра яго. Прыехалі на рэкалекцыі таму, што параіў ім пробашч.



***Расціслава:*** На першы погляд можна падумаць, што мы апынуліся тут зусім выпадкова. Але мы ўжо цяпер, на другі дзень рэкалекцый, адчуваем, што гэта не так. Бог нас сюды паклікаў. Напэўна, дзеля таго, каб мы ўмацаваліся ў веры і адкрылі для сябе ісапраўдныя каштоўнасці.

***Сяргей:*** Нягледзячы на тое, што мы тут упершыню, адчуваем сябе, як дома. Вельмі імпануе прыязная, даверлівая атмасфера адносін паміж людзьмі. Яна сама вучыць: вось такім і павінна быць наша штодзённае жыццё. Увогуле наша сям'я неблагая, я дзякую Богу і за жонку, і за дзяцей. Але ж гэта зусім не азначае, што мы не павінны дбаць пра яе ўмацаванне.

**Сям'я Язерскіх з Гродна:** жонка Фелікса і муж Станіслаў. На рэкалекцыях у Шэметаве ўпершыню. Але затое ўдзельнічалі ў рэкалекцыях руху "Хатні касцёл" у Польшчы, пасля якіх засталіся самыя найлепшыя ўражанні. Мінулы год быў трагічны для гэтай сям'і: яна страціла старэйшага сына.

***Фелікса:*** Аднойчы на прыступках касцёла ў Гродне нас затрымала адна сям'я і прапанавала прыйсці на сустрэчу "Хатняга касцёла". Прызнаюся, мяне гэта неяк насцярожыла, мужа таксама, бо мы баяліся трапіць у секту. Нас пераканалі, што гэта не так, і мы ўрэшце асмеліліся прыйсці на сустрэчу. Прыйшлі і з першага дня сталі актыўнымі ўдзельнікамі руху, бо нас моцна падкупіла атмасфера выключнай сардэчнасці. А пасля рэкалекцый у Польшчы і я, і муж глянулі на свет іншымі вачыма і ўбачылі: і людзі навокал добрыя, і свет прыгожы, і ў нашых душах ёсць вялікая прага дабрыні. Мы, хрысціяне, павінны ўвесь час імкнуцца да ідэалу, які



нам прапанаваў Хрыстус, а ў руху "Хатні касцёл" мы маем найбольшую магчымасць наблізіцца да яго.

"Хатні касцёл" дапамагае нам напоўніцу адчуць радасць жыцця, але адначасна ён дапамагае і вытрымаць гора, беды, няшчасці. Калі ў мінулым годзе нас напаткала гора, мы былі не адны: удзельнікі нашага кола і маліліся разам з намі, і плакалі разам, і проста былі побач. Як жа гэта важна, як важна! Даруйце за слёзы: мы яшчэ не канчаткова справіліся з бядою, не поўнасцю аддалі Пану Богу свайго сына. Нам вельмі цяжка. Але мы дзякуем Богу за ўсё: за гэты дзень і наведанне Полацка, за рэкалекцыі ў Шэметаве, дзякуем за іх кіраўніка ксяндза Марка Казьмерчака, дзякуем за нашага пробашча ў Гродне, які не проста дзяліў з намі гора, але разам з намі перажываў яго, дзякуем Пану Богу за тое, што некалі Ён натхніў ксяндза Бляхніцкага на стварэнне гэтага цудоўнага руху — "Хатні касцёл"!

**Сям'я Каралевічаў з Мінска:** маці Станіслава, бацька Аляксей, дачка Таццяна. На рэкалекцыях упершыню, пра "Хатні касцёл" пачулі зусім нядаўна. Мінулы год для гэтай сям'і таксама стаў годам цяжкага выпрабавання — памерла старэйшая дачка. Напэўна, не выпадкова Пан Бог скіраваў шляхі і гэтай сям'і на рэкалекцыі ў Шэметава, дзе ёсць цудоўная магчымасць набрацца сілы духу, душэўнай раўнавагі, хрысціянскай трываласці.

***Станіслава:*** Дарога да Бога заўсёды складаная. Магчыма, мы задоўга ішлі да Яго. Але ж прыйшлі і гэта робіць нас трывалымі ў горы і бядзе, у тых выпрабаваннях, якія Ён пасылае нам. Чаго я чакаю ад рэкалекцый? Я заўсёды прашу Пана Бога асвяціць мой розум і розум дарагіх мне людзей. У гэтым свеце вельмі шмат зла, і дзеля таго, каб у нашым жыцці перамагала дабро, трэба быць абсалютна шчырымі перад Богам. Шмат людзей жыве так, як і мы жылі да нядаўняга часу: зрэдку наведваюць касцёл, лічаць сябе вернікамі, і знешне нібыта ўсё добра. Такая "летняя" вера здольна толькі заспакоіць сумленне — не больш. Карысці ж ад яе для душы няшмат. Толькі тады, калі мы адчуем, што нам без Касцёла складана ў гэтым свеце, што свет без яго вузкі, толькі тады мы адчуем сябе сапраўднымі вернікамі. Можа, гэта здасца дзіўным, але нават пасля такога цяжкага гора, якое выпала на нашу долю, мы чуем на сабе Божую любоў і дабрыню. Імкнемся адказваць Пану Богу ўзаемнасцю, бо нас палюбіў Бог не таму, што добрыя мы, але таму, што добры Ён.



***Аляксей:*** Усё на гэтым свеце — справа Божых рук. Пан Бог шмат чаго прапануе чалавеку, але перад чалавекам заўсёды ёсць выбар. Ён можа прыняць нейкую прапанову Пана Бога, а можа і адмовіцца ад яе. Цешыць тое, што наша сям'я імкнецца ісці на Божы покліч.

...Шэметава сустрэла нас вечаровымі промнямі сонца. Прахалода ліпеньскага вечара апускалася на невысокі, але велічны сваёю старажытнай задумлівасцю касцёл, што высіцца на крутым узгорку. Паблізу касцёла раскінуўся палатачны лагер удзельнікаў рэкалекцый, за якім доўгімі сіняватымі стужкамі цягнуліся вадаёмы ў шчодрым атачэнні лозаў. Словам, калі хочаш падыхаць спакоем, калі з'явілася жаданне падумаць у цішы пра вечнае, то варта прыехаць у Шэметава. Варта памаліцца ва ўтульным касцёле, сцены якога літаральна нясуць на сабе подых стагоддзяў. Варта суцішыць тут бег і мітуслівасць свайго жыцця. Хто ведае, можа, малітва адкрые тут для нас штосьці такое, да чаго ўжо даўно, няхай сабе падсвядома імкнулася душа...



Так, усё невыпадкова ў нашым жыцці. І тое, што гэтыя рэкалекцыі адбываюцца менавіта тут, у Шэметаве, таксама невыпадкова. Бо тут пануе нейкая асаблівая атмасфера суладнасці і сугучнасці духоўнага, старажытнага, высокага, сапраўднага. Пра ўсё гэта думалася ўвечары пры месячным святле, раніцай, калі промні ўзыходзячага сонца асвяцілі цудоўныя краявіды Шэметава, у часе ранішніх малітваў, падчас Святой Імшы ў перапоўненым касцёле. Дарэчы, вельмі прыемна ўразіла тое, што на Імшы было шмат мясцовых мужчын. Было шмат і моладзі, і дзяцей, але ўлетку гэта не дзіва ў вясковых парафіях. А вось тое, што палова лавак у касцёле занята мужчынамі, нагадвае аповеды нашых бабуль пра тое, як даўней у нядзелю ў касцёл абавязкова ішла ўся сям'я: бацька, маці, дзеці... На жаль, тая цудоўная традыцыя даўно і моцна парушылася. Цяпер найчасцей убачыш, як бабуля тэпае сабе паціху ў касцёл з унукамі. І ці варта ў такім разе здзіўляцца, адкуль і чаму звальваецца на нашыя галовы так шмат бедаў, чаму мы такія "нешчаслівыя"?

Праўда, ад удзельнікаў руху "Хатні касцёл" такіх нараканняў не пачуеш. Дзякаваць Богу, тут часцей можна пачуць прыкладна тое, што вырвалася з вуснаў маці трох сыноў Наталлі Карпушавай з Паставаў: "Цяпер я магу крыкнуць хоць на ўвесь свет, што кахаю свайго мужа!" А шчаслівы мужчына, якога так моцна кахаюць, — гэта Сяргей Карпушаў.

На рэкалекцыях выпадковага і неабавязковага не бывае. Тут усё важна: разважанні над Евангеллем, супольныя малітвы, сумесны адпачынак, аналіз асобных жыццёвых сітуацый, "зялёны вечар", лекцыі для татаў і мамаў аб натуральных метадах планавання сям'і. Усё важна і патрэбна. І ўсё гэта дае той запас трывалага і духоўнага, з якім сем'і жывуць да наступных рэкалекцый.

*Ірына ЖАРНАСЕК.*
*Фота аўтара.*

Алесь ТРАФІМЕНКА

## Шлях

*Шмат на свеце ёсць дарог,*
*сцежак і гасцінцаў,*
*На якія праз парог*
*нашага дзяцінства*
*Мы выходзім у жыццё,*
*першы крок зрабіўшы,*
*Спасцігаючы быццё,*
*пра спакой забыўшы.*
*І бяжыць ракою час*
*па далінах свету,*
*За сабой нясе ён нас*
*да шляхоў сусвету.*
*І знікае за гарой*
*тых часоў адзінства,*
*Як за чорнаю смугой*
*берагі дзяцінства.*

* * *

*На руінах шляхецкай сядзібы*
*Зацвітае шыпшына ізноў.*
*Засталіся каменныя глыбы*
*Ад палацу вяльможных паноў.*
*Горы смецця ў фамільнай капліцы,*
*Каляровае шкло вітражоў,*
*На тле сценаў пустыя вачніцы,*
*Падзяўбаная цэгла муроў.*
*У здзічэлым без догляду парку,*
*Каля сажалкі ў коле хмызоў*
*Прытулілася ў цені альтанка —*
*Абарона ад летніх дажджоў.*
*Месца першых юнацкіх прызнанняў*
*І натхнёных паэта радкоў,*
*Надвячоркам таемных спатканняў*
*Супраць волі нязгодных бацькоў.*
*Зараслі запаветныя сцежкі*
*Запаведных калісьці гаёў.*
*Парахнеюць сядзібы парэшткі*
*На пагорках уздоўж ручаёў.*
*Гэта ўсё, што на памяць аб продках*
*Нам пакінуў у спадчыну час...*
*Ад людзей, што на кніжных старонках*
*Называюць нашчадкамі нас.*

Малюнак Ігара ГАРДЗІЕНКА



# Рубяжэвіцкай парафіі — 200 гадоў

***Летам гэтага года вернікі Рубяжэвіцкай парафіі св.Антонія адзначылі яе 200-годдзе.***

У летапісе чытаем пра тое, як у 1799 г. для католікаў быў пабудаваны малітоўны дом, які ў 1800 годзе перабудавалі ў касцёл. Святыня праіснавала да 1866 года, а потым яе забралі праваслаўныя, і яна стала царквой імя св.Антонія.

Католікі страцілі сваю святыню. Але ніхто не хацеў траціць веры ў тое, што гэта назаўсёды. Людзі маліліся і прасілі Усемагутнага Бога даць ім сілы не губляць сваёй веры і вярнуць святыню.

Сярод рубяжанаў жыў веруючы чалавек – Антоні Тур. Яму была “візія”, што менавіта ён павінен узяць на сябе ўвесь клопат па арганізацыі будаўніцтва новага касцёла ў мястэчку Рубяжэвічы. Пра гэта Антоні і паведаміў жыхарам. Адносіны да яго слоў былі розныя: хто верыў, хто сумняваўся. Але сваёй упартай працай і стараннасцю Антоній Тур змог пераканаць людзей у тым, што гэта справа патрэбная і неабходная: нельга католікам жыць без святыні. Некалькі разоў ён пісаў прашэнне да цара Мікалая дазволіць будаваць касцёл, але кожны раз атрымліваў адмову. У 1868 годзе А.Тур папрасіў людзей дапамагчы прыцягнуць за мястэчка на пясчаны бугор вялікі камень і выбіць на ім словы: “На гэтым месцы будзе пабудаваны Рыма-каталіцкі касцёл”. За гэты ўчынак Антоні Тур са сваёй сям’ёй быў высланы на тры гады ў Сібір.

Гады выгнання і выпрабаванняў не пахіснулі яго волі. Вярнуўшыся з высылкі, ён працягваў сваю справу. Тры разы хадзіў пешшу ў Пецярбург, і нарэшце дазвол быў дадзены. З 1905 года пачалося будаўніцтва новага касцёла.

У 1906 г. Антоні Тур памёр. Труну з яго целам прынеслі на месца будовы касцёла. На пахаванне сабралося больш за 1000 чалавек.

Будаўніцтва касцёла св.Юзафа было скончана ў 1910 годзе, а ў 1917 годзе католікі вярнулі сабе і касцёл св.Антонія.

Пастаянна служба праводзілася ў касцёле св.Юзафа. А на ўрачыстасць св.Антонія вялікая працэсія ішла



Касцёл св. Юзафа ў Рубяжэвічах.



Дзеці рубяжэвіцкай парафіі.



Рубяжэвіцкі касцёл св. Антонія, знішчаны ў канцы 70-ых.

праз усё мястэчка да касцёла св.Антонія.

13 чэрвеня 1939 года парафіяне прайшлі з працэсіяй апошні раз. Касцёл св.Антонія зачынілі бальшавікі. Маёмасць перавезлі ў касцёл св.Юзафа, некаторыя парафіяне, каб не прапала, частку яе забралі дадому. Застаўся толькі прыгожы будынак, які сіратліва паглядаў з пагорка на сваіх парафіянаў.

А пазней яго напаткаў яшчэ больш жудасны лёс: у 50-я гады там адкрылі клуб, трошкі пазней клуб перарабілі на збожжасховішча, а ў канцы 70-х будынак наогул разбурылі. Астанкі пахаваных ксяндзоў былі перанесены на каталіцкія могілкі.

І стала пуста. Але толькі не ў сэрцах вернікаў. Яны верылі: нешта павінна змяніцца. Час ішоў, потым адбыўся яшчэ больш жах: знайшліся людзі, якія адважыліся на месцы разбуранага касцёла пабудаваць сабе хату і распачаць сваё жыццё. Ды толькі чамусьці не складваецца яно. Ёсць тут над чым падумаць...



Але часы мяняюцца... Ізноў нам дадзена магчымасць не хаваць сваёй веры, наведваць святыні, будаваць іх і аднаўляць.

Вернікі парафіі св.Антонія вырашылі паставіць памятны знак на тым месцы, дзе была іх першая святыня.

Усё было ўзгоднена з сельсаветам, быў атрыманы дазвол ад старшыні сельсавета А.І.Літвінскага. Ініцыятыву ўзяў у свае рукі ксёндз-дэкан Р.Юнік. Была заказана памятная табліца, у калгасе знайшлі патрэбны будаўнічы матэрыял. Архітэктарамі і будаўнікамі былі самі парафіяне. Адгукнуўся і дырэктар школы М.Ч.Лысы, які адпусціў вучняў у час практыкі для дапамогі.

13 чэрвеня 1999 года адбылося адкрыццё памятнага знака. На месцы касцёла св.Антонія быў устаноўлены 4-метровы бетонны крыж (адліваў яго Тадэвуш Сабалеўскі) і мураваная табліца, на якой на дзвюх мовах зроблены надпіс. Пад табліцаю выкладзены ў форме сэрца камяні, нібы збалелае сэрца вернікаў. У гэтым сэрцы – груда камянёў, якія засталіся ад касцёла, а па баках яго – жывыя кветкі, сімвал неўміручай каталіцкай веры. Прыстанкі, якія вядуць уверх, нагадваюць пра тое, што падняцца ўверх можна лёгка, але дарога ўпіраецца ў крыж, які трэба несці кожнаму ў сваім жыцці, бо па жыцці прайсці не так проста.

З працэсіяй ад касцёла св.Юзафа, як некалі, прайшлі вернікі да месца, дзе быў касцёл св.Антонія. Урачыста яны скінулі белае палатно – і ўсім адкрыўся крыж нашага Збаўцы Езуса Хрыста. Крыж, як напамін пра першую святыню, як сцверджанне неўміручасці нашай веры.

*Рамуальда САБАЛЕЎСКАЯ, настаўніца Рубяжэвіцкай СШ.*




*Крыж і памятная табліца на месцы першай рубяжэвіцкай святыні.*







# ДОБРАЯ І НЯЛЁГКАЯ ДАРОГА СВЯТАРА

Штогод 25 ліпеня прыкасцёльная плошча вёскі Опса, што на Браслаўшчыне, запаўняецца легкавушкамі, якія выстройваюцца, нібы на тэхнічны агляд. Пасля святочнай Імшы і малітвы да святога Крыштафа адбываецца ўрачыстае асвячэнне транспартных сродкаў і благаславенне вадзіцеляў на шчаслівыя шляхі-дарогі. Святар выходзіць на плошчу і свянцонаю вадою акрапляе "жыгулі", "масквічы", іншамаркі, матацыклы з каляскамі, старэнькія веласіпеды. Айцец Крыштаф Менкіна шчыра жадае, каб ягоны нябесны апякун заўсёды апекаваўся і клапаціўся пра ягоных парафіянаў.

Вёска Опса ляжыць якраз на прыгожым шляху Паставы—Браслаў. І, кіруючы гэтым шляхам, нельга абмінуць тутэйшую святыню — чырвоны будынак са стромкаю вежаю-званіцаю 1887 года, з высокаю цаглянаю агароджаю, за якой вока цешаць яркія кветнікі і акуратна пастрыжаныя газоны. Воблік святыні нібы сам гаворыць, што яна ў дбайных гаспадарскіх руках, шануецца і беражэцца. І ўжо цяжка паверыць, што былі часы, калі касцёл служыў атэістам у якасці ўстановы культуры, аб чым дагэтуль сведчаць "роспісы" сцен і скляпенняў унутры храма.

Рэстаўрацыяй святыні і ўпарадкаваннем тэрыторыі айцец Крыштаф заняўся даволі натхнёна, хоць гэта патрабавала немалых грашовых і фізічных намаганняў. Але любая справа па плячы, калі вакол памочнікі і аднадумцы. Адна з вартых павагі справаў святара — устаноўка ў храме вокнаў-вітражоў, якія выканаў віцебскі мастак Аляксандр Малахаў. Гэта — восем вітражоў з выявамі арханёла Міхала і Яна Хрысціцеля, святога Андрэя Баболі, святой Тэрэсы, святога Язафата, святога Максіміліяна, благаслаўлёнай Фаустыны, святога Крыштафа. Усе гэтыя працы можна аднесці да высокага класу мастацкага выканання, а, магчыма, пазней яны будуць прызнаныя творамі выяўленчага мастацтва. Тут жа, у храме, вітражы выконваюць ролю абразоў.

Апошнім часам у вобліку храма адбылося яшчэ адно значнае пераўтварэнне — новы цёмна-карычневага колеру дах абнавіў яго. А крыж над святыняй у цёмны час сутак свеціцца блакітным святлом. Такога ўпрыгожання, бадай, не мае яшчэ ні адна каталіцкая святыня не толькі на абшарах Браслаўшчыны, але і ва ўсёй Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі. Гэта выклікае ў парафіянаў гонар за сваю святыню і свайго клапатлівага святара.

— Я хачу, каб тут ва ўсім адчуваўся еўрапейскі ўзровень культуры, — гаворыць ксёндз Крыштаф Менкіна.

У маладога святара некалькі парафіяў. Але яшчэ не кожная мае сваю святыню. У вёсцы Заборнікі вернікі збіраюцца на Імшу ў сялянскай хаце, а ў летнія дні набажэнствы тут ладзяцца каля прыдарожнага крыжа. І ў гэтым, несумненна, ёсць свая непаўторная адметнасць.

Другі касцёл — яшчэ толькі будоўля — у вёсцы Пагошча. Узвядзенне храма наспела тут даўно. Парафія хоць і невялікая, але згуртаваная, арандуе для набажэнстваў калгасны клуб. Будынак святыні, несумненна, узбагаціць воблік вёскі, стане яе прыгожым месцам. Новабудоўля вымагае не толькі ведання будаўніцтва і архітэктуры, але прымушае быць і забеспячэнцам, і прарабам, хоць добрых памочнікаў у святара хапае. Гэта забірае шмат часу, сілаў, энергіі, якія вельмі патрэбны святару ў штохвілíннай душпастырскай працы. Але як быць, калі ён — пакуль адзін абслугоўвае, лічы, тры парафіі.

— Усе мы — вандроўнікі на цяжкім шляху да Бога, — часта зазначае ў сваіх казаннях опсаўскі святар Крыштаф Менкіна.

Парафіяне дзякуюць Богу за свайго святара, за тое, што на гэтым шляху ён разам з імі.

*Анатоль КЛЯШЧУК.*
*Фота аўтара. Рэпартаж —на 4-й с. вокладкі.*



*Сябры! Спадзяюся, гэтая восень багатая на падарункі для вас. Маю на ўвазе не толькі грыбы ў лесе, яблыкі ў садзе ды букеты прыгожай восеньскай лістоты, але яшчэ і адзнакі ў вашых дзённіках. Бо хіба ж можна ленавацца ў навучальным годзе, які неўзабаве назавецца двухтысячным? Вядома, не. І таму, напэўна ж, усе вы стараецеся цешыць бацькоў сваімі поспехамі ў вучобе, добрымі справамі.*

*Адна такая справа чакае нас напярэдадні свята Усіх Святых і Задушнага дня. Усім нам трэба абавязкова схадзіць на могілкі, навесці там парадак: зграбсці і спаліць старое, выпетранае лісце, упрыгожыць магілы нашых родных, блізкіх і знаёмых, запаліць там знічы (так называюцца спецыяльныя свечкі ў прыгожых ліхтарыках). І яшчэ: звярніце, калі ласка, увагу на магілы, што знаходзяцца побач з магіламі вашых родных і блізкіх. Можа, і там патрэбныя вашыя рукі, бо тыя магілы ўжо няма каму даглядаць? Памятайце: па тым, як мы ўшаноўваем памяць сваіх продкаў, можна ўжо цяпер меркаваць, як будуць памятаць пра нас нашыя нашчадкі.*

Марыська

## Частка другая — балесная




### Таямніца пятая

*Укрыжаванне і смерць Пана Езуса*

**Пытанні для разважанняў**

**1.** Хто з вучняў Хрыста стаяў на Галгофе пад Ягоным Крыжам?

**2.** Хто быў укрыжаваны разам з Езусам? Раскажыце пра іх.

**3.** Якімі словамі маліўся Езус за тых, хто здекваўся з Яго?




**4.** Які запавет пакінуў нам Пан Езус праз свайго вучня і сваю Маці?

**5.** Што адбылося на зямлі ў момант смерці Езуса Хрыста?

У страшных муках Пан Езус памірае на Крыжы і тым самым адкупляе грэшны свет з моцы смерці. Якая ж вялікая ты, Божая любоў, да нас! Усе мы павінны ўдзельнічаць у гэтай бясконцай любові, калі толькі жадаем атрымаць адкупленне. Бог будзе міласэрны да нас тады, калі і мы будзем міласэрныя да іншых людзей.

Маці Балесная, наша добрая Маці! Навучы нас усім сэрцам любіць Твайго Сына так, як Ён палюбіў нас.

***Ойча наш...***
***10 Вітай, Марыя...***
***Хвала Айцу...***
***О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі...***





# Агеньчыкі

У Задушны вечар сабраў святы Пётр усе душы на ўскрайку неба, і яны ўсе разам назіралі за тым, што адбывалася на зямлі.

Было на што паглядзець, было!

Нягледзячы на познюю пару, на зямлі было гэтак светла, нібы насуперак вячэроваму змроку раптам засвяціла сонца і азалаціла ўсю зямлю. Гэта на ўсіх могілках свяціліся сотні і сотні агеньчыкаў. Кожная магілка, нават самая бедная, асвечвалася дрыготкімі залатымі язычкамі.

Адкуль жа ўзяліся тыя агеньчыкі? Гэта людзі, якія яшчэ заставаліся на зямлі, запалілі задушныя свечкі ў знак памяці аб сваіх родных, блізкіх, сяброў, якія таксама некалі жылі на зямлі, а цяпер адышлі ў вечнасць. Задушныя свечкі — гэта заўсёды знак таго, што жывыя памятаюць пра памерлых.

А душы ў небе радуюцца, калі бачаць людскую памяць на зямлі. Вось і ў той Задушны вечар яны, сабраўшыся на ўскраі неба, наперабой цешыліся:

— І пра мяне памятаюць!

— А мяне таксама не забылі!

— І па мне сумуюць!

Але сярод тых радасных душаў была душачка адной дзяўчынкі, якую на зямлі звалі Марысяй. Дык вось Марыся не цешылася разам з усімі, але была вельмі сумнаю.

Убачыў гэта добры святы Пётр і падумаў, што, можа, пра Марысю ўжо забыліся на зямлі, можа, на яе магілцы не запалілі задушнай свечкі. І сказаў ён Марысі:

— Зямля далёка ад неба —можа, ты, Марыся, не бачыш сваёй магілкі... А, можа, і гарэлі на ёй свечкі, ды задзьмуў іх вецер... Не сумуй, мая добрая дзяўчынка, не можа быць, каб пра цябе так хутка забыліся на зямлі.

Адказала яму Марыся:

— Добры святы Пётр! Не затушыў вецер свечак на маёй магілцы — добра бачу адсюль. І бачу кветачкі, якія ўпрыгожваюць маю магілку. Але побач з імі стаіць мая сумная матулька і ўвесь час плача, сумуе па мне, шкадуе, што рана я пакінула яе і адышла на неба. Як жа мне суцешыць яе, гаротную?

І расплакалася Марыська! Задумаўся святы Пётр — вось дык клопат! Ніхто на небе ніколі не плача, не сумуе, а тут...

Але, на шчасце, ішла паблізу Маці Божая, убачыла Марыську ўсю ў слязах, прыпынілася. Бо Маці Божая, як вядома, заўсёды знойдзе добрую параду, заўсёды дапаможа. Вось і цяпер Яна ўсміхнулася дзяўчынцы, прамовіла:

— З неба на зямлю сысці цяжка. Не кожнаму гэта дазваляецца і не кожны патрапіць гэта зрабіць. Але калі табе так шкада сваёй матулі, якую ты асіраціла, то можаш яе суцешыць.

Марыська ажно пляснула ў ладкі:

— Як, Святая Пані? Як мне гэта зрабіць?

Адказала ёй Маці Божая:

— Твая маці, Марыська, на зямлі пастаянна на неба ўзіраецца, праз слёзы шукае цябе ў небе. Спадзяецца яна, што ты шчаслівая, што памятаеш пра яе, молішся за яе. Дык запалі і ты на знак сваёй памяці агеньчык, так, як яна на зямлі запаліла для цябе. Убачыць яна твой агеньчык і суцешыцца, і зразумее, што ты, Марыська, таксама памятаеш пра яе.

Падзякавала Марыська Найсвяцейшай Пані за добрую параду, а святы Пётр прынёс з нябеснае скарбонкі ззяючую зорачку і падаў дзяўчынцы...

Плакала Марысіна маці над магілкай сваёй дачкі, кленчыла, малілася і плакала... Але вось яна ў чарговы раз узняла вочы ў неба і ўбачыла проста над сабою ясны агеньчык, залацістую зорачку, якая толькі што ўспыхнула на небе... Адчула матчына сэрца, што гэта душа яе любай дачушкі, яе Марыські, падае ёй знак з неба. І ў тую ж хвіліну вялікая радасць прыйшла ў сэрца журботнае маці...

Усё гэта бачылі душы на небе. Ім таксама захацелася суцешыць сваіх родных і блізкіх, якія сумуюць па іх на зямлі. І запалілі яны таксама ясныя зорачкі — падалі знак на зямлю, што яны жывуць і памятаюць пра ўсіх.

Так з тае пары і пайшло. Штогод у лістападзе, на Задушкі, калі на магілках запальваюць свечкі памяці, зараз жа і на небе адзін за другім запальваюцца цудоўныя агеньчыкі. Кожная душа запальвае свой агеньчык. Вельмі шмат загараецца на небе цудоўных зорачак, яны пасылаюць сваё святло на зямлю і... суцяшаюць журботных людзей, якія ў гэты лістападаўскі дзень абавязкова прыходзяць на могілкі і пры свечках моляцца. Так вось яны моляцца ўсе разам — на небе і на зямлі — суцяшаюць адзін аднаго і разумеюць, што іхняя разлука не навечна.

# НАДЗЕЯ ЎСІХ ВЕРНІКАЎ

## Св. Браўліён

*Святы Браўліён быў біскупам Сарагосы, што ў Іспаніі. Пасля сябе ён пакінуў 24 лісты, якія з'яўляюцца сведчаннем яго глыбокіх тэалагічных ведаў і ўзорам прыгожай літаратурнай мовы.*

Хрыстус — надзея ўсіх вернікаў — кажа пра тых, хто адыходзіць з гэтага свету, не як пра памерлых, але як пра тых, што паснулі. Вось жа Ён кажа: "Лазар, наш прыяцель, спіць".

Таксама і святы Павел не хоча, каб мы смуткавалі па тых, што паснулі. Бо калі вера вучыць, што ўсе, хто верыць у Хрыста, не памруць навекі, то на падставе гэтага мы ведаем, што ні Ён не памёр, ні мы не памром. Бо на знак і на голас арханёла, на гук Божай трубы сам Пан сыдзе з неба, а памерлыя ў Ім змёртвыхпаўстануць.

Няхай жа ўзніме наш дух надзея змёртвыхпаўстання, бо тых, каго мы страчваем тут, мы зноў убачым там; толькі нам трэба моцна верыць у Хрыста, гэта значыць, выконваць Яго наказы. Яму, Усемагутнаму, лягчэй разбудзіць памерлага, чымсьці нам — таго, хто заснуў. Мы разумеем ўсё гэта, але не зразумела, чаму з нашых вачэй часам сплываюць слёзы, а наш дух веры слабее ад пачуцця смутку. Варты шкадобы лёс чалавека, а без Хрыста ўсё, чым мы жывем, дарэмнае.

О жорсткая і лютая смерць, ты разрываеш сем'і, раздзяляеш сяброў! Вось жа зламана ўжо твая вялікая моц! Вось Той, хто пагражаў табе клічам Осіі: "О смерць, я буду тваёй смерцю!", скінуў ужо тваё ненавіснае ярмо. Таму разам з Апосталам можам кпіць: "Дзе ж, о смерць, твая перамога; дзе, о смерць, тваё джала?"

Той самы, хто перамог цябе, і нас адкупіў. Ён аддаў сваё дарагое жыццё грэшнікам, каб зрабіць грэшнікаў дарагімі. Як жа доўга і шмат можна было б знаходзіць у Святым Пісанні для супольнага суцяшэння! Але няхай будзе дастаткова для нас надзеі на змёртвыхпаўстанне і позірка на Збаўцу, у якім моцай веры мы ўжо лічым сябе змёртвыхпаўсталымі згодна са словамі Апостала: "Бо калі мы памерлі з Хрыстом, то верым, што разам з Ім жыць будзем".

Бо мы не належым сабе, але Таму, хто нас адкупіў. Ад Яго волі павінна заўсёды залежыць наша воля. Таму ў малітве мы кажам: "Будзь воля Твая". Таму ў часе пахавальнай урачыстасці нам трэба казаць разам з Іовам: "Пан даў, Пан узяў, няхай імя Панскае будзе блаславёна".

Нам пішуць

# РАДАСЦЬ ПРЫЙШЛА ДА НАС

У верасні мінулага года ў Стоўбцах адбылася радасная гістарычная падзея. Тут была асвечана капліца, у будаўніцтве якой прымалі ўдзел і вернікі нашай парафіі.

А дагэтуль мы збіраліся на малітву ў часовай капліцы.

Сучасная ж капліца — гэта прыгожы цагляны будынак.

Вернікам Стоўбцаў стала лягчэй дыхаць, у іх акрыліліся душы, бо яны маюць цяпер магчымасць прымаць удзел у Святой Імшы ў светлым, утульным і цёплым памяшканні. Усе жадаючыя дзеткі могуць вучыцца на ўроках рэлігіі. Заняткі праводзяцца ў розныя дні тыдня.

Душа перапаўняецца радасцю, калі чуеш з дзіцячых вуснаў:

*Ты за Сабою нас вядзеш,*
*Дзе кліча Бог, о Марыя!*
*І мы з табою Яму чэсць*
*Тут аддаём, о Марыя!*

У нядзелю, пасля Святой Імшы моладзь старэйшых класаў таксама збіраецца разам. У іх шмат цікавых спраў: набыццё неабходных ведаў па рэлігіі, сцэнкі на святы, пілігрымкі, цікавыя паездкі. А колькі незабыўных уражанняў засталося ў іх пасля пілігрымкі ў Будслаў!

За гэтае цікавае, напоўненае адкрыццямі жыццё парафіі мы шчыра ўдзячны нашаму пробашчу Яраславу Зарадзкаму і сёстрам-законніцам.

З адкрыццём капліцы ў Стоўбцах у нас нібы адкрылася другое дыханне, мы зразумелі асалоду рэлігійнага жыцця. Таму мне і захацелася падзяліцца гэтай радаснай падзеяй з чытачамі "Ave Maria". Разумею, што не ўсюды наладжана такое ж цікавае жыццё. Трэба шмат маліцца і прасіць у Бога гэтай ласкі. І тады абавязкова прыйдзе тая светлая хвіліна, калі людзі, як і мы цяпер, будуць жыць з Богам і па-сапраўднаму адчуваць сябе шчаслівымі. Бо менавіта тут, у капліцы, на Святой Імшы чалавек атрымлівае духоўную падтрымку, якая дае сілы і дапамагае жыць.

*Ф.ШЫМАК. г. Стоўбцы.*



*Добры дзень, паважаная рэдакцыя!*

*У мінулым годзе ў Пастаўскім касцёле на практыцы быў дыякан Уладзімір Каспарэвіч (цяпер ён ужо святар і служыць Пану Богу і людзям у касцюковіцкім касцёле). Ён шмат працаваў у нашай парафіі, дапамагаў пробашчу, разам з вернікамі ўпрыгожваў пляцоўку каля касцёла. Цяпер, падышоўшы да фігуры Маці Божай, кожны можа прачытаць на кветніку радаснае: "Ave Maria". Душа цешыцца, калі бачыш, як кветкі сваёй прыгажосцю праслаўляюць Маці Божую. Але і кветкі, і дрэвы, і ўся прырода могуць гэта рабіць толькі тады, калі ім дапамогуць добрыя душы і рукі людзей. Менавіта гэткай дабрынёй валодае святар Уладзімір Каспарэвіч. Няхай добры Пан Бог і Маці Божая падтрымліваюць яго на жыццёвым і святарскім шляху.*

*Вернікі з Пастаў.*



Магілёўскі край прыгожы, слаўны і няпросты. Прыгожы, бо аздоблены цудоўнымі лясамі, маленькімі азёрамі і шырокамі палямі. Слаўны, бо ён калісьці быў мітраполіяй арцыбіскупа, межы якой ахаплівалі далёкую Сібір. Край няпросты, бо тут знайшлі прытулак людзі розных нацыянальнасцяў.

Менавіта ў гэты край, у самы вялікі дэканат у Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, 31 жніўня 1999 года прыбыў Яго Эмінэнцыя



# Душпастырская візітацыя ў самым вялікім дэканаце

кардынал Казімір Свёнтэк з кананічнай і душпастырскай візітацыяй.

Яго Эмінэнцыя наведаў 11 парафій, якія знаходзяцца ў некалькіх раёнах. 31 жніўня ў Чавусах ксёндз кардынал пасвяціў крыж і пляц пад будову новай святыні. 1 і 2 верасня візітацыя адбылася ў Расне і Мсціслаўлі.

У Расне Яго Эмінэнцыя маліўся на руінах знішчанага касцёла. Ён прасіў Пана Бога, каб дапамог узняцца гэтай і іншым святыням. Перадусім жа маліўся аб адбудове святыняў нашых сэрцаў.

У гістарычным Мсціслаўлі, які знаходзіцца на беларуска-расійскай мяжы, кардынал К.Свёнтэк прывітаў і паблагаславіў Сясцёр Школьных Нотр Дам, якія нядаўна прыехалі сюды.

3 верасня пры ўдзеле шматлікіх вернікаў і святароў Яго Эмінэнцыя паблагаславіў капліцу Божай Міласэрнасці ў вёсцы Княжыцы (Шклоўскі раён).

У гэты ж дзень ксёндз кардынал прыехаў у Бялынічы на сустрэчу з вернікамі, якія сабраліся ў маленькай хаціне, што ўжо некалькі гадоў служыць капліцаю мясцовай парафіі. Трэба заўважыць, штоБялынічы калісьці былі адным з самых вялікіх і дзейсных Марыйных санктуарыяў. Менавіта тут, перад копіяй абраза Маці Божай Бялыніцкай, парафіяне даручылі сябе Богу.



4 верасня нараніцы перад уваходам у прыгожа аднаўленую магілёўскую катэдру Яго Эмінэнцыю кардынала Казіміра Свёнтка прывітаў ксёндз доктар Уладыслаў Блін. Хоць ксёндз кардынал прыязджае ў Магілёў не першы раз, на гэту сустрэчу з ім прыйшло вельмі шмат людзей. Пасля прывітання і Святой Імшы адбылося благаслаўленне хворых і пажылых людзей... Увесь суботні дзень быў прысвечаны спатканням з Легіёнам Марыі, з групамі Жывога Ружанца, Хатняга Касцёла, з Шанштацкімі Маці, парафіяльным камітэтам, а таксама сёстрамі місіянеркамі Святой Сям'і і сёстрамі ад Анёлаў.

У нядзелю ксёндз кардынал распачаў дзень на так званых "польскіх могілках". Менавіта ў гэтым месцы ў "забаронены час" збіраліся вернікі, каб памаліцца. У мясцовай капліцы ў 1989 годзе пачаў ажываць магілёўскі Касцёл. На гэтых могілках спачываюць адзін біскуп і дванаццаць святароў.Кардынал затрымаўся каля магілы кожнага з іх, каб праз малітву падзякаваць за іх пастырскае служэнне.

Калі ксёндз кардынал вярнуўся ў катэдру, там яго чакалі лектары і міністранты...

Пасля Магілёва на шляху візітацыі быў Шклоў, што знаходзіцца за 40 км ад абласнога цэнтра. Менавіта тут 21 верасня адбылося ўрачыстае адкрыццё і пасвячэнне адбудаванага касцёла. Святыня сабрала вернікаў са Шклова і Магілёва. На гэтую ўрачыстасць прыйшлі таксама прадстаўнікі праваслаўнай канфесіі,прадстаўнікі ўлады...

У наступныя тры дні візітацыя адбывалася ў заходняй частцы Магілёўшчыны. У гэтыя дні кардынал К.Свёнтэк наведаў невялічкую вёску Казімірава. Душпастыр мясцовага касцёла — францішканін а.Натанаэль з Асіповічаў. У гэтай вёсцы на могілках захаваўся маленькі драўляны касцёл. калі немцы ў часе вайны хацелі спаліць яго, жыхары ўратавалі святыню, выйшаўшы з абразом Маці Божай насустрач ворагам. Потым улады перапварылі касцёл у зернясховішча.





Увечары ксёндз кардынал цэлебраваў Святую Імшу на пляцы, які прызначаны пад будову касцёла.

23 верасня адбыліся яшчэ два Эўхарыстычныя спатканні: у Глуску і ў Клічаве, дзе быў асвечаны пляц.

У апошні дзень візітацыі кардынал К.Свёнтэк наведаў Бабруйск. Дзень распачаўся Святою Імшою з благаславеннем хворых. Потым Яго Эмінэнцыя сустрэўся з сёстрамі салезіянкамі, а таксама ў суправаджэнні ксяндза дзекана Уладыслава Бліна і ксяндза Рамана Факсінскага наведаў дзіцячы дом... Дзень быў насычаны шматлікімі сустрэчамі з парафіяльнымі суполкамі.



Асноўная думка ўсяе візітацыі — словы з Евангелля: "Ты — Пётр — скала, і на гэтй скале Я пабудую Мой Касцёл, а брамы пякельныя не пераможуць яго" (пар.Мц 16, 18).

Узгадваючы гэтыя словы, кардынал Казімір Свёнтэк выказаў радасць, што Касцёл на Беларусі не толькі ўздымаецца з руінаў, але і пачынае пульсаваць новым жыццём. Гэтыя словы былі таксама заклікам для прысутных, каб яны самі ўключаліся ва ўмацаванне Хрыстовага Евангелля на беларускай зямлі праз жыццё, згоднае з Божаю воляй... У якасці зброі супраць розных жыццёвых цяжкасцяў арцыпастыр пакідаў кожнай парафіі ружанец, асвечаны Святым Айцом Янам Паўлам II. Божае благаслаўленне, якое шчодра сплывала з рук Яго Эмінэнцыі, умацоўвала і будзе ўмацоўваць вернікаў на шляху ў трэцяе тысячагоддзе хрысціянства.

*Кс.Андрэй Даланскі,*
*вікары парафіі ў Магілёве.*

*На здымках — моманты візітацыі ў Магілёўскім дэканаце.*

*Фотарэпартаж пра гэту падзею — на 3-й с. вокладкі.*

(Заканчэнне. Пачатак глядзі на 2-й с.)

# СВЯТАРСКІЯ ПАСВЯЧЭННІ Ў МІНСКУ

па кантрольна-вымяральных прыборах і аўтаматыцы. Служыў у войску на Далёкім Усходзе ў Хабараўску. Пасля вярнуўся на радзіму.

Дзякуючы ксяндзу Францішку Кіселю пачаў больш актыўна ўдзельнічаць у парафіяльным жыцці. Сустрэча з ксяндзом Стэфанам Прэкуратам дапамагла Аляксандру канчаткова вырашыць далейшы лёс. У 1993 годзе ён паступіў у семінарыю. У 1998 годзе атрымаў пасвячэнне ў дыяканы і выконваў сваю дыяканскую паслугу ў в. Парафьянава.

**Юзаф Мельдзюк** нарадзіўся 19 жніўня 1962 года ў в. Вярэнькі. Бацькі перадалі яму веру і любоў да Бога, бо самі былі глыбока веруючымі людзьмі. Пасля войска працаваў у пастаўскай райкінафікацыі. У 1985 годзе яму давялося працаваць кінарадыёмеханікам у Германіі ў авіяцыйным шпіталі. У 1990 годзе пашчасціла пабываць у кляштарах Кармэлітаў босых у Кракаве, Лодзі, Вадавіцах і ў Варшаве. Менавіта тады Юзаф пачуў голас Хрыста: "Ідзі за Мною". Самай важнай падзеяй, якая паўплывала на яго далейшае жыццё, была размова з кс. біскупам Аляксандрам Кашкевічам і кс. Раманам Катлімоўскім. Юзаф канчаткова зразумеў, што яго сапраўды кліча Хрыстус, які жадае, каб ён прысвяціў сваё жыццё служэнню Богу і людзям.

У 1993 годзе Юзаф паступіў у Духоўную семінарыю ў Гродна.

Кожнае пакліканне – гэта дар Пана Бога. Можа таму сем'і гэтых святароў адораны асабліваю ласкаю, што маюць па два пакліканні. Брат кс. Дзмітрыя Аляксандр цяпер праходзіць дыяканскую практыку ў Архікатэдральным касцёле ў Мінску, сястра кс. Аляксандра, Антаніна, выбрала закон эўхарыстак, а сястра кс.Юзафа Марына – кляўзуровых дамініканак.

Цяжка растлумачыць таямніцу паклікання, а яшчэ больш – Божы Провід у адносінах да чалавека. Не заўсёды мы ўсведамляем сваё прызначэнне і адказнасць за сябе і за іншых. У такія хвіліны згадваюцца словы Хрыста: "Не вы Мяне выбралі, але Я вас выбраў, каб вы ішлі і прыносілі плён, і каб плён ваш трываў". Хацелася б, каб гэтыя словы свайго Настаўніка помнілі і новапрэзбітары, якія 10 ліпеня прынялі сакрамэнт Святарства ў мінскай Архікатэдры. Таму жадаем, каб, поўныя веры і любові да Бога, поўныя сілы, яны служылі Пану Богу, людзям і роднай Бацькаўшчыне. Няхай Маці Божая Будслаўская і Святы Міхал Арханёл будуць у іх жыцці падрымкаю і дапамогаю.

*А. Б.*

*Фотарэпартаж з урачыстасці А.Клешчука — на 4-й с. вокладкі*

## У нумары



**Часопіс «Ave Maria»**
Жнівень—Верасень № 8-9 (54-55) 1999
Заснавальнік — Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада.
Надрукавана на дзяржаўным унітарным прадпрыемстве «Смаленскі паліграфкамбінат» Дзяржкамітэта РФ па друку. 214020, г.Смаленск, вул.Смальянінава, 1.
Зак. 9661. Наклад 8 700 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, тэл./факс: (172)26 90 92
Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.
Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.





## Душпастырская візітацыя

Матэрыял чытайце на 22-й с.











## СВЯТАРСКІЯ ПАСВЯЧЭННІ Ў МІНСКУ

Матэрыял чытайце на 1-й і 24-й с.







